

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Экапамічнай Нарады
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 6 (107) | 1 красавіка 1931 г. | № 6 (107)



## ЗЬМЕСТ.



---

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### 23. Пра ўжываньне прымусовых работ без трыманьня пад вартаю.

На падставе арт. 218 Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР НК Юстыцыі БССР устанаўляе наступны парадак правядзеньня прымусовых работ без трыманьня пад вартаю.

1. Арганізацыя і кіраваньне прымусовымі работамі без трыманьня пад вартаю ажыцьцяўляюцца Народным Камісарыятам Юстыцыі праз Кіраўніцтва Мясцамі Зьняволеньня і Прымусовых работ.

Беспасрэднае скарыстаньне асуджаных да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю праводзіцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі, сельскімі і местачковымі саветамі.

Раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы праводзяць гэтыя работы праз загадчыкаў прымусовых работ.

2. Усе выдаткі, зьвязаныя з правядзеньнем прымусовых работ без трыманьня пад вартаю (утрыманьне работнікаў, арганізацыя работ, выплата ўстаноўленай зарплаты асуджаным да прымусовых работ і г. д.), робяцца за кошт паступленьняў ад гэтых работ, у адпаведнасьці з каштарысамі, якія зацьвярджаюцца Кіраўніцтвам месц зьняволеньня НКЮ.

3. На паказаныя ў п. 1 гэтай інструкцыі органы ўскладаецца:

а) падлік прысуджаных да прымусовых работ і выкананых (адбытых) імі работ;



б) арганізацыя і падшуканьне работ і накіраваньне на гэтыя работы прысуджаных і нагляд за іх работаю;

в) нагляд за выкананьнем правіл, якія рэгулююць умовы працы пры адбываньні прымусовых работ;

г) правядзеньне растлумачальна-выхаваўчай працы сярод адпаведных катэгорый прысуджаных да прымусовых работ;

д) перавод асоб, узятых на падлік, у іншыя органы, ведаючыя прымусовымі работамі, для адбываньня імі работ па месцы іх сталага жыхарства;

е) вядзеньне ўстаноўленай справаздачнасьці.

4. Суды і адміністрацыя ўстановы, пасьля ўваходу ў моц іх пастаноў аб прыцягненьні да прымусовых работ, павінны паведамляць аб гэтым з накіраваньнем копіі пастановы тым органам, якія праводзяць прымусовыя работы па месцы пражываньня асуджанага.

5. Органы, якія праводзяць прымусовыя работы, атрымаўшы паведамленьне (арт. 4) бяруць асуджанага на падлік, запаўняючы на яго, на падставе атрыманага прысуду (або пастановы) картку (ф. № 1) і заводзяць яго асабовую справу.

6. Пасьля ўзяцьця асуджанага да прымусовых работ на падлік, ён накіроўваецца безадкладна для адбыцьця гэтых работ, за выключэньнем выпадкаў калі немагчыма безадкладнае прызначэньне на работу з прычыны адсутнасьці работы, хваробы данае асобы альбо іншых уважлівых прычын.

7. Асобы, працуючыя па найму і прысуджаныя да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю, незалежна ад тэрміну вызначаных ім прымусовых работ, накіроўваюцца для адбыцьця работ па месцу сваёй сталай работы.

Выключэньне з гэтага правіла робіцца толькі ў тых выпадаках, калі прысудам суда асуджанаму забаронена адбываць прымусовыя работы па месцу сталай работы. Ў гэтых выпадках ён накіроўваецца на работу на агульных падставах.

8. Калі прысуджаны павінен адбываць паводле арт. 7 Інструкцыі прымусовыя работы па месцы сваёй сталай работы—яму пасылаецца позва (ф. № 2) для высьвятленьня месца яго работы.

Пры высьвятленьні месца работы ў тую ўстанову, дзе асуджаны працуе, пасылаецца паведамленьне (ф. № 3).

9. Асобы, накіраваныя для адбыцьця прымусовых работ па месцу сваёй сталай работы, адбываюць там гэтыя работы да канца вызначанага тэрміну, альбо да таго часу, пакуль ня будуць зволены з работы ў парадку, прадугледжаным Кодэксам аб Працы.

10. Пры звальненьні з работы асуджанага да прымусовых работ па розных прычынах да моманту заканчэньня прызначанага яму тэрміну прымусовых работ—наймальнік павінен у 3-дзённы тэрмін паведаміць орган, які накіраваў прысуджанага на работу, а асуджаны ў той самы тэрмін павінен зьявіцца ў орган, якім ён узят на подлік, для прызначэньня на іншую работу.

За несвоечасовую яўку вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. 31 і 33 гэтай інструкцыі.



11. Члены калгасаў і капераваныя саматужнікі, прысуджаныя да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю, могуць адбываць гэтыя работы таксама па месцу сваёй сталай работы на ўмовах, паказаных у арт. арт. 7—10 гэтай інструкцыі, прычым абавязкі адміністрацыі выконвае адпаведнае праўленьне арганізацыі.

12. Калі прысуджаны да прымусовых работ асуджан на тэрмін да 14 дзён, ён адбывае гэтыя работы не далей 10 кілёмэтраў ад месца пражываньня.

Ва ўсіх іншых выпадках работы могуць адбывацца і далей 10 кілёмэтраў ад месца пражываньня асуджанага.

Асобы непрацоўных катэгорый могуць пасылацца на прымусовыя работы далей за 10 кілёмэтраў незалежна ад тэрміну, на які яны прысуджаны.

13. Калі прысуджаны да прымусовых работ павінен адбываць гэтыя работы не па месцу сталай работы, ён скарыстоўваецца на работах распараджэньнем органу Прымусовых работ.

У гэтых выпадках прысуджаны альбо выклікаецца ў орган прымусовых работ для высьвятленьня яго становішча і спэцыяльнасьці (позва ф. № 2), альбо, калі ўсе даныя аб ім вядомы, яму пасылаецца позва (ф. № 7) з паказаньнем тэрміну і месца яўкі на работу.

Адначасова з накіраваньнем прысуджанага на работу ва ўстанову ці арганізацыю, куды прысуджаны прызначан на работу, пасыляецца паведамленьне (ф № 8).

14. Пры накіраваньні на работы павінна быць улічана сацыяльнае станавішча асуджанага, кваліфікацыя і спэцыяльнасць, фызычны стан стан здароўя яго, ў залежнасьці ад чаго вызначаецца той ці іншы характар работ.

15. Пры прызначэньні на работу прысуджанаму павінны быць дадзены дакладныя паказаньні аб месцы прымусавай работы, аб дні і гадзіне абавязковай яўкі на работу, ўмовы работы і павінна быць зроблена папярэджаньне, што пры спазьненьнях на работу, няўважлівых адносінах да працы, парушэньні ўстаноўленых правіл парадку на работах, кепскіх адносінах да інструмэнтаў і г. д.—ня будзе залічвацца палова альбо цэлы дзень работы і будуць прыняты захады судовага і дысцыплінарнага ўплыву, паводле арт. арт. 31 і 33 інструкцыі (арт. арт. 225 і 227 ППК).

16. Работа, па магчымасьці, вызначаецца на ўвесь тэрмін адбыцьця прымусовых работ, у выпадку-ж немагчымасьці гэта зрабіць, можа ўжывацца прызначэньне на работу з такім разьлікам, што на астатні тэрмін будзе дадзена новае прызначэньне ў момант сканчэньня першай работы.

У выпадку немагчымасьці наогул безадкладна прызначыць на работу орган, што праводзіць прымусовыя работы, павінен паказаць прысуджанаму новы тэрмін для яўкі.

Трэба мець на ўвазе, што адміністрацыйныя пастановы аб накладаньні пакараньня ў відзе прымусовых работ, павінны быць прыведзены ў выкананьне ў працягу 2-х месяцаў з дня вынясеньня пастановы, г. з.,

у працягу двух месяцаў асоба павінна быць абавязкова прызначана на работу.

17. Калгасьнікі, сяляне-беднякі і серадннякі, калі ў іх гаспадарцы няма іншых працаўнікоў, ня магуць быць прызначаны на прымусовыя работы на працягу 3-месячнага пэрыяду важнейшых с/г. работ. Адтэрмінаваньне робіцца паводле правіл арт. 37 гэтай інструкцыі.

18. Замена асуджаных да прымусовых работ другімі асобамі не дапушчаецца. Прысуджаным забараняецца таксама прыводзіць з сабою памочнікаў альбо прывозьнікаў пры вазох. Не дапушчаецца замена натуральных работ унясеньнем грашовага эквіваленту.

19. Асоба, зьявіўшаяся да прызначэньня на работу, калі яна заявіць аб немагчымасьці стаць на работу з прычыны хваробы, павінна быць зараз-жа накіравана ва ўрачэбную ўстанову, паводле абежніку НК Аховы Здароўя за 21/XI-1930 г. № 44, для мэдычнага абгляду. Вынікі абгляду мэдустанова паведамляе органу прымусовых работ.

20. У выпадку, калі мэдаглядам будзе прызнана поўная непрацаздольнасьць асобы, прысуджанай да прымусовых работ, да работы з прычыны хранічнай хваробы ці інваліднасьці, аб гэтым з далучэньнем дакумэнтаў паведамляецца тая ўстанова, якая прызначыла прымусовыя работы з хадайніцтвам аб зьмене прымусовых работ на іншую меру сац. абароны, альбо на іншы від адміністрацыйнага пакараньня.

Пасьля атрыманьня адказу аб зьмене прымусовых работ на іншую меру аб гэтым робіцца адзнака ў картцы і справа лічыцца скончанай.

21. Прысуджаны да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю павінен зьявіцца на работу ў дакладна вызначаны яму тэрмін, паводле абзаца 2 арт. 219 ППК (гэта значыць не пазней як праз 7 дзён ад дня прызначэньня на работу і ўручэньня яму аб гэтым паведамленьня).

22. У выпадку, калі прысуджаны без уважлівых прычын ва ўстаноўлены тэрмін не зьявіцца на месца работы, ён прыводзіцца ў прымусовым парадку праз органы міліцыі альбо праз сельскіх выканаўцаў. Пры гэтым орган прымусовых работ павінен высьвятліць прычыны няяўкі на працу, ў залежнасьці ад чаго (і сац. становішча асуджанага) ўжываюцца меры выхаваўчага і дысцыплінарнага характару і новае прызначэньне на працу. Пры паўторных ухіленьнях ад працы ўжываюцца захады, паказаныя ў арт. 33 інструкцыі. Аб ухіленьні ад работы і прынятых захадах адзначаецца ў картцы. Пры замене з гэтай прычыны прымусовых работ на іншую меру на картцы робіцца адзнака і справа лічыцца скончанай.

23. Асобы, якія адбываюць прымусовыя работы, ня маюць права пераходзіць па свайму жаданьню без папярэдняй згоды органа прымусовых работ на іншую работу, ці зьмяняць месца жыхарства без папярэдняга паведамленьня органа прымусовых работ.

24. У выпадку, калі прысуджаны да прымусовых работ на тэрмін звыш 14 дзён схаваецца ад адбыцьця работ (пераезд на другое месца жыхарства без паведамленьня і г. д.) як да пачатку адбыцьця работ, так і ў працэсе адбываньня (калі адбываць засталося ня менш 14 дзён) органам прымусовых работ ужываюцца захады да вышуку. У першую чаргу ўтвараецца мясцовы вышук праз мясцовую міліцыю, якой на-

кіроўваецца паведамленьне (ф. № 9). Калі мясцовы вышук у працягу месяца з часу абавяшчэньня вынікаў ня дасьць, абавяшчаецца вышук праз Крымінальны Вышук Кіраўніцтва Міліцыі і Крымінальнага Вышуку пры СНК БССР, якому пасылаецца паведамленьне (ф. № 9), з паказаньнем, што мясцовы вышук вынікаў ня даў. Адносна схаваўшыхся прысуджаных да 14 дзён асоб робіцца толькі мясцовы вышук.

Аб схаваньні робіцца адзнака на картцы.

25. Калі схаваўшаяся асоба, прысуджаная да прымусовых работ, дабравольна зьявіцца ў орган, які ведае прымусовымі работамі, альбо будзе вышукана і дастаўлена ў гэты орган, яна накіроўваецца на працу ўстаноўленым парадкам.

26. Калі прысуджаны будзе знойдзен на тэрыторыі БССР—ён накіроўваецца міліцыяй альбо крымвышукам у бліжэйшы орган прымусовых работ, з паведамленьнем аб гэтым таму органу, якім быў абвешчан вышук. У гэтым выпадку асуджаны бярецца органам, у які ён дастаўлен, на падлік і накіроўваецца на работу ў агульным парадку.

27. Асоба, якою быў абвешчаны вышук, пасьля атрыманьня паведамленьня аб вышуку асуджанага і перадачы ў мясцовы орган прымусовых работ, перасылае ў гэты орган прысуд суда ці пастанову, з паказаньнем колькасьці адбытых прымусовых работ. На картцы падліку гэтай асобы робіцца адзнака, і справа лічыцца скончанай.

28. Пры дабравольнай яўцы асуджанага, а таксама пры адшуканьні яго далейшы вышук павінен быць спынен тым органам, якім вышук быў абвешчаны.

29. Калі асоба, якая вышукваецца, ня будзе знойдзена на працягу 3-х год, вышук яе спыняецца, на картцы робіцца адзнака і справа лічыцца скончанай.

30. Пры перамене прысуджаным да прымусовых работ месца жыхарства са згоды органу прымусовых работ (арт. 23) апошні паведамляе адпаведны орган прымусовых работ па месцу новага жыхарства асуджанага аб тэрміне прысуду, адбытым тэрміне, перасылае прысуд ці пастанову. На картцы робіцца належная адзнака.

31. За ўхіленьне ад адбываньня прымусовых работ, невыкананьне ўстаноўленых правіл, а таксама за несумленнае выкананьне работы, псаваньне матарыялаў і начыньня, на прысуджанага да прымусовых работ можа быць накладзена дысцыплінарнае пакараньне:

а) перавод на больш цяжкія работы;

б) выключэньне з тэрміну адбытых прымусовых работ, якія нядбайна праароблены, альбо няпоўнасьцю праароблен час работ;

в) арышт пры міліцыі да 14 дзён.

32. Дысцыплінарныя ўзысканьні накладаюцца на асуджанага да прымусовых работ органам прымусовых работ, аб чым выносіцца пастанова ф. № 10 з абвяшчэньнем яе асобе, на якую накладзена пакараньне. Аб накладаньні пакараньня адзначаецца ў картцы. Для адбываньня арышту асоба накіроўваецца ў міліцыю ці спраўдом пры копіі пастановы. Час, праведзены пад арыштам, у тэрмін адбыцьця прымусовых работ не залічваецца.

33. У тых выпадках, калі будзе прызнана нямэтазгодным далейшае ўжываньне дысцыплінарых пакараньняў, перад установай, што прызначыла прымусовыя работы, органам прымусовых работ ставіцца пытаньне аб зьмене гэтай меры на іншую меру.

34. Вылічэньне тэрмінаў адбыцьця прымусовых работ праводзіцца наступным чынам:

а) калі ў пастанове суда, альбо адморгану тэрмін прымусовых работ вызначан днямі альбо суткамі, то прысуджаная асоба абавязана адбываць прымусовыя работы на працягу той колькасьці рабочых дзён, якая вызначана ў пастанове: дні адпачынку і сьвяточныя дні ў лік вызначанага тэрміну не ўваходзяць, калі даная асоба ў гэтыя дні не працавала;

б) калі ў пастанове тэрмін прымусовых работ вызначан тыднямі альбо месяцамі, то дні адпачынку і сьвяточныя дні, якія прыходзяцца паміж рабочымі днямі, залічваюцца ў тэрмін прымусовых работ;

в) калі прысуджаны прыдзе на работу з канём і павозкай ці плугам, бараной і інш. неабходным для работы інвэнтаром, то орган, які праводзіць прымусовыя работы, лічыць дзень яго працы за два дні, на падставе дакумэнтаў, якія сьведчаць аб рабоце з гэтым інвэнтаром.

35. Перапынкі і адтэрмінаваньні ў адбываньні прымусовых работ дапушчаюцца ў наступных выпадках:

а) у выпадку хваробы;

б) у час цяжарнасьці—за 2 мес. да радоў і на працягу 2 месяцаў пасьля радоў;

в) па іншых прычынах (цяжкая хвароба членаў сям'і, смерць члена сям'і і г. д.).

Бягучыя каротка-тэрміновыя перапынкі і адтэрмінаваньні да 2 месяцаў робяцца беспасрэдна органам, які праводзіць прымусовыя работы, аб чым выносіцца пастанова (ф. № 11) і адзначаецца на картцы.

Ва ўсіх выпадках, калі трэба адтэрмінаваць прымусовыя работы ня менш як на 2 мес. (для курсантаў, вучняў, студэнтаў да канца навучаньня і г. д.), пытаньне аб гэтым вырашаецца судом, які вынес прысуд.

Усе гэтыя водпускі ў тэрмін адбыцьця прымусовых работ не залічваюцца.

Аб усіх водпусках і адтэрмінаваньнях робяцца адзнакі ў картцы.

36. У выпадку хваробы прысуджанага да прымусовых работ у працэсе адбываньня работ факт хваробы і яе характар, з паказаньнем тэрміну, на які прысуджаны павінен быць вызвален ад работ, сьведчыцца адносна рабочых і служачых—урачэбным бюлятэнем. Іншыя асобы накіроўваюцца для мэдагляду органам прымусовых работ у бліжэйшую лекавую ўстанову парадкам, паказаным у арт. 19 інструкцыі. Вынікі агляду, з паказаньнем тэрміну, на які хворы павінен быць вызвален ад работы, лекустанова паведамляе ў орган прымусовых работ для адтэрмінаваньня. Аб адтэрмінаваньні на падставе пералічаных дакумэнтаў з паказаньнем тэрміну адзначаецца ў картцы.

37. Пасьля адбыцьця асуджаным да прымусовых работ усяго тэрміну прысуду альбо вызваленьня па іншых прычынах, аб гэтым робіцца адзнака на картцы і адначасова аб выкананьні паведамляецца ў орган, якім былі вызначыны прымусовыя работы (ф. № 12).

38. Аб'ектамі прымусовых работ для асоб, якія не адбываюць гэтыя работы па месцы сталай работы, у залежнасьці ад мясцовых умоў могуць зьяўляцца: правядзеньне і рамонт дарог, вуліц, мастоў, грэбляў, пабудова і рамонт будынкаў грамадзкага значэньня, загатоўка і падвоз апалу, лясныя распрацоўкі, сельскагаспадарчыя работы, работы на прадпрыемствах месц зьняволеньня і інш. прадпрыемствах, наогул на такіх грамадзкіх работах, якія патрабуюць масавай працы.

39. Орган прымусовых работ павінен скласьці плян скарыстаньня на работах асуджаных да прымусовых работ па ўсяму свайму раёну. Пры складаньні плянаў орган прымусовых работ выходзіць з арыентыровачнай лічбы асоб, асуджаных да прымусовых работ і своечасова намечаных аб'ектаў работ. У выпадку адсутнасьці арганізаваных работ вышукваюцца аб'екты самастойна праводзімых грамадзкіх работ па паказаньнях мясцовых органаў Улады (Гарсавет, РВК).

40. Орган прымусовых работ павінен праводзіць культурна-выхаваўчую работу сярод асуджаных да прымусовых работ, якія адбываюць гэтыя работы ў масавым парадку і належаць да працоўных.

41. Пры заключэньні ўмоў з адпаведнымі гаспадарчымі арганізацыямі аб прадастаўленьні для работ асуджаных да прымусовых работ павінны быць прадугледжаны моманты: месца работ, характар работ, нормы выпрацоўкі, забясьпечаньне інтэрнатамі, інструмэнтамі і аплата працы. Аплата можа быць як падзённая, так і падрадная (ад выпрацоўкі) у залежнасьці ад зьместу і характару работ.

Падлік работ, як агульнае правіла, павінен рабіцца па зьдзельнай сыстэме, якая ўведзена ў данай мясцовасьці. Нормы работы павінны ўстанаўлівацца сярэднія для даных работ, якія ўстаноўлены органамі НК Працы, выходзячы з 8 гадзіннага дня для фізычнай працы.

Аб колькасьці фактычна адпрацаваных дзён і якасьці працы кіраўнік арганізацыі ці ўстанова, дзе адбываліся асуджаным прымусовыя работы, паведамляе органу прымусовых работ для падліку і адзнак.

42. Орган прымусовых работ павінен сачыць за тым, каб арганізацыі і ўстановы, у якія накіраваны для работы асуджаныя да прымусовых работ, своечасова ўносілі альбо пераводзілі па прызначэньні сродкі за работу, паводле адпаведных умоў (арт. 41 Інструкцыі), а ўстановы і арганізацыі, дзе асуджаныя адбываюць прымусовыя работы на месцы работы—зарплату апошніх.

43. Усе паступаючыя ад прымусовых работ сродкі павінны залічвацца на адчынены спэцыяльны бягучы рахунак данага органу прымусовых работ у бліжэйшай мясцовай крэдытнай установе.

44. Выдаткі па прымусовых работах могуць рабіцца толькі ў межах зацьверджанага Кіраўніцтвам месц зьняволеньня НКЮ выдатковага каштарысу на пэўна вызначаныя мэты. Звышкаштарысныя выдаткі ў кожным паасобным выпадку могуць рабіцца толькі з дазволу Кіраўніцтва месц зьняволеньня НКЮ.

45. Прыбыткова-выдатковы каштарыс складаецца органам, які праводзіць прымусовыя работы (на ф. № 13) па нормах, якія ўстанаўліваюцца Кіраўніцтвам месц зьняволеньня НКЮ і падаюцца туды на зацьверджаньне.

46. Для падліку грашовых сродкаў орган прымусовых работ вядзе кнігу (Ф. № 14), у якую запісвае ўсе паступленьні і зацьверджаныя выдаткі.

47. Пасьля сканчэньня месяцу і да 10-га дня наступнага месяцу робіцца канчатковы разьлік па арганізацыйна-аперацыйных выдатках (разьлік на выдачу зарплаты адбываючым прымус. работы, па ўтрыманьні службовых асоб і арганізацыі работ), а астача сродкаў, за выключэньнем 10 проц., якія пакідаюцца на выдаткі на бліжэйшы час, пераводзяцца на рахунак Кіраўніцтва Месц зьняволеньня НКЮ.

48. Аплата работы асуджаных да прымусовых работ праводзіцца ў адпаведнасьці з арт. 223 ППК:

а) дзяржаўны мінімум па адпаведных даведках органаў НК Працы выплачваецца ўсім працуючым асуджаным;

б) па хадайніцтвах асуджаных да прымусовых работ, у залежнасьці ад сацыяльнага, матарыяльнага і сямейнага становішча асуджанага і за добрае выкананьне работы, аплата працы можа быць павялічана пастановай органу прымус. работ (ф. № 15) да 50 проц. фактычнага заробку за выкананую работу.

49. Аплата працы можа быць грашоваю, натуральнаю і мяшанаю. Натуральная і мяшаная форма аплаты звычайна можа ўжывацца ў тых выпадках, калі арганізаваныя работы знаходзяцца на значнай аддегласьці ад месца сталага жыхарства асуджанага, у сувязі з чым можа быць наладжана харчаваньне на месцы з вылікам кошту гэтага харчаваньня з тых сум, якія прылічваюцца асуджанаму.

Рэшта грашовых сум, паводле ўстаноўленай нормы аплаты, выдаецца на рукі.

50. За інвэнтар і інструмант, з якімі прысуджаны зьяўляецца на работу, ніякая аплата не выдаецца; беднякам і сераднякам, у выпадку іх аб гэтым просьбы, можа выплачвацца каштоўнасьць фуражу для іх жывога інвэнтару паводле існуючых мясцовых норм, альбо фураж гэты выдаеццаа натурай.

51. Асуджаным да прымусовых работ, якія адбываюць гэтыя работы як па месцу сталай работы, так і ў іншых мясцох, па дагаворанасьці з адміністрацыяй установы, вызначаная норма аплаты можа выдавацца адміністрацыяй па месцу работы.

Рэшта пераводзіцца на рахунак органу прымусовых работ.

52. Ва ўсіх іншых выпадках аплата працы робіцца непасрэдна органам прымусовых работ, па разьліковай ведамасьці ф. № 16. Для гэтага арганізацыі і ўстановы, дзе працуюць асуджаныя, павінны ва ўстаноўленыя тэрміны паведамляць суму фактычнага заработку кожнай адбываючай у іх прымус. работы, асобы.

53. Справаводзтва па прымусовых работах складаецца з наступнага:

а) асабовай справы на асуджанага да прымусовых работ;

б) карткі на асуджанага (ф. № 1), якія раскладваюцца такім парадкам:

1) на адбываючых прымусовыя работы;

2) на асуджаных, якім прадастаўлены адтэрміноўкі па хваробе і іншых прычынах,

3) на схаваўшыхся асоб,

4) на адбыўшых прымусовыя работы,

—у кожнай групе па альфабэту;

в) справы з рознай перапіскай, у якую далучаюцца: распараджэньні, паказаньні, перапіска з установамі і арганізацыямі, пляны работ, каштарысы, умовы і г. д.;

г) з прыбытковымі грашовымі дакумэнтамі;

д) з выдатковымі грашовымі дакумэнтамі.

54. З выданьнем гэтай інструкцыі касуецца інструкцыя НКУС „Пра ўжываньне прымусовых работ без атрыманьня пад вартай“ за 14|VIII-1929 г. і зьмены ў ёй за 19|VIII-1930 г.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **Ляўкоў**.

29 сакавіка 1931 г.
№ 13—4.

**Дадатак № 1.**

## ВЫПІС

## з разьдзелу XXII Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР

### „Аб прымусовых работах без трыманьня пад вартаю“.

(У рэдакцыі пастаноў ЦВК і СНК за 1/VI-1929 г. і за 6/VI-1930 г.)

Арт. 217. Прымусовыя работы без трыманьня пад вартаю:

а) адбываюцца не далей 10 кілёмэтраў ад месца пражываньня прысуджанага да іх, калі яны назначаны на тэрмін да двох тыдняў;

б) могуць адбывацца далей за 10 кілёмэтраў ад месца пражываньня прысуджанага да іх, калі яны назначаны на тэрмін больш за 2 тыдні;

в) могуць адбывацца рабочымі і служачымі на месцы іх працы.

Асобы непрацоўных катэгорый могуць пасылацца на прымусовыя работы далей за 10 кілёмэтраў незалежна ад тэрміну, на які яны прысуджаны.

Арт. 218. Суды і адміністрацыйныя ўстановы, пасьля ўваходу ў законную сілу пастаноў аб прыцягненьні да прымусовых работ, павінны паведамляць аб сваіх пастановах тым органам, якія праводзяць прымусовыя работы.

Прысуджаны, пасьля атрыманьня павесткі, павінен праз 7 дзён зьявіцца ў орган, які яго выклікаў. Дзень яўкі лічыцца першым днём адбываньня прымусовых работ.

Арт. 220. Органы, якія праводзяць прымусовыя работы, накіроўваюць прысуджаных для выкананьня работ у дзяржаўныя прадпрыемствы, савецкія гаспадаркі, на дарожныя і інш. дзяржаўныя работы, альбо ў распараджэньне сялянскіх камітэтаў таварыстваў узаемададапамогі для скарыстаньня на работах у чырвонаармейскіх і незаможных сялянскіх гаспадарках.



Пры накіраваньні асуджанага да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю для выкананьня гэтых работ павінна ўлічвацца фізычная прыгоднасьць асуджаных і іх кваліфікацыя.

Арт. 223. Асобы, якія адбываюць прымусовыя работы без трыманьня пад вартаю, атрымліваюць за час адбываньня імі прымусовых работ грашмі альбо натурай дзяржаўны мінімум заработнае платы ў данай мясцовасьці, які, ў залежнасьці ад матарыяльнага становішча асуджанага і за добрае выкананьне работы, можа павялічвацца органам, які праводзіць прымусовыя работы, да 50 проц. іх фактычнага заработку за выкананую работу.

Арт. 224. Бяднейшым грамадзянам, калі яны пададуць належную даведку аб сваёй беднасьці, даецца ў час адбываньня прымусовых работ харчаваньне натураю альбо грашмі ў разьмеры дзяржаўнага мінімуму заработнае платы ў данай мясцовасьці.

Арт. 225. За наўмыснае псаваньне асобамі, якія адбываюць прымусовыя работы, дадзеных ім для іх работы матарыялаў і начыньня, гэтыя асобы нясуць крымінальную (арт. 261 Кр. Код.) і матарыяльную адказнасьць.

Арт. 226. Перапынак і адтэрміноўка ў адбываньні прымусовых работ павінен быць:

а) у час хваробы і

б) у час цяжарнасьці за 2 месяцаў да родаў і на працягу 2 месяцаў пасьля родаў.

У іншых выпадках, калі трэба будзе адтэрмінаваць прымусовыя работы ня менш як на 2 месяцы (для курсантаў, вучняў, студэнтаў да канца навучаньня і г. д.), пытаньне аб гэтым вырашаецца судом, які вынес прысуд. Бягучыя кароткатэрміновыя перапынкі і адтэрміноўкі да 2 месяцаў робяцца беспасрэдна тым органам, які праводзіць прымусовыя работы.

Арт. 227. За ўхіленьне ад адбываньня прымусовых работ, за невыкананьне ўстаноўленых правіл, а таксама за нясумленнае выкананьне работы і псаваньне матарыялаў і начыньня на прысуджанага накладаюцца органам, у якім даная асоба зарэгістравана, наступныя пакараньні:

а) перавод на больш цяжкія работы;

б) выключэньне з тэрміну адбываньня прымусовых работ нядбайна прапробленага альбо самавольна прапушчанага часу;

в) арышт пры міліцыі да 14 дзён.

Арт. 228. Калі прысуджаны будзе прыходзіць на работу з сваім інвэнтаром, то ўстанова, якая кіруе прымусовымі работамі, можа скараціць яму рабочы дзень да паловы.

Арт. 221. Асобам, якія адбываюць прымусовыя работы, штодня даецца ад аднае да двох гадзін на абед і пасьляабедзенны адпачынак. Асобы, якія не атрымліваюць абеду на месцы работы, маюць права адлучацца на час абеду.

**Дадатак 2.**

**Копія адносіны НК Аховы Здароўя БССР за 21/XI-1930 г. № 44 на імя інспэктур аховы здароўя і райздраваў.**

НК Аховы Здароўя БССР гэтым растлумачвае, што асобы, прыгавораныя судовымі і адміністрацыйнымі органамі да прымусовых работ без трыманьня пад вартай, павінны аглядацца лекустановамі з мэтай высьвятленьня працаздольнасьці толькі па накіраваньні адпаведных гарадзкіх і раённых адмаддзелаў, сельскіх і местачковых саветаў. Пры гэтым лекустановы ў кожным выпадку павінны даваць заключэньні, для якой працы, г. зн. лёгкай ці фізычнай гэтыя асобы могуць прыцягвацца.

**Дадатак 3.**

Зацьвярджаецца.
Народны Камісар Юстыцыі БССР
**Ляўкоў.**
29 сакавіка 1931 г.

## ЧАСОВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ

**пра загадчыкаў прымусовых работ.**

1. Загадчыкі прымусовых работ знаходзяцца пры раённых выканаўчых камітэтах і гарадзкіх саветах і прызначаюцца для ажыцьцяўленьня прысудаў і пастаноў аб прымусовых работах без трыманьня пад вартаю.

У гарадох і раёнах, дзе ёсьць папраўна-працоўныя дамы, загадчыкі прымусовых работ знаходзяцца пры гэтых дамох, ва ўсіх іншых раёнах—пры нарсудох.

2. Загадчыкі прымусовых работ зьяўляюцца службовымі асобамі страявога складу месц зьняволеньня: на іх распаўсюджваецца палажэньне аб службе ў мясцох зьняволеньня і выдадзеныя ў разьвіцьцё яго інструкцыі; ім прысвайваецца вопратка ўстаноўленай для месц зьняволеньня формы па існуючай табелі і ўстаноўленыя знакі адрозьніваньня.

3. Загадчыкі прымусовых работ прызначаюцца на пасаду і звальняюцца з яе Кіраўніцтвам Месц Зьняволеньня і прымус. работ НКЮ, па прадстаўленьні начальнікаў папр.-прац. дамоў, альбо нарсудзьдзяў, узгодненаму з райвыканкомам або гарсаветам, па належнасьці.

Увага 1. У тых раёнах, дзе па колькасьці прысуджаных да прымусовых работ увядзеньне асобнай пасады прызнана будзе нямэтазгодным, абавязкі загадчыка прымусовых работ могуць ускладацца па сумяшчальнасьці на аднаго з штатных работнікаў нарсуда тым самым парадкам.

Увага 2. На выконваючых абавязкі загадчыка прымусовых работ па сумяшчальнасьці арт. 2 Палажэньня не распаўсюджваецца.

4. На загадчыкаў прымусовых работ ускладаецца: падлік асоб, прысуджаных да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю, непасрэднае выкананьне прысудаў і адміністрацыйных пастаноў аб прымусовых работах і вядзеньне справаздачнасьці у адпаведнасьці з разьдзелам XXII Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР і выдадзенымі ў разьвіцьцё яго інструкцыямі і палажэньнямі і паказаньнямі Кіраўніцтва Месц Зьняволеньня і прымусовых работ НКЮ.

Загадчыкі прымусовых работ правяраюць, па паказаньнях РВК і гарсаветаў, ажыцьцяўленьне прысудаў аб прымусовых работах у сельскіх і местачковых саветах раёну.

5. Загадчыкі прымусовых работ выконваюць ускладзеную на іх работу самастойна.

Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю загадчыкаў прымусовых работ ажыцьцяўляецца Кіраўніцтвам Месц Зьняволеньня і прымусовых работ НКЮ; непасрэдны кантроль і нагляд за іх дзейнасьцю належыць РВК і гарсаветам, якія ажыцьцяўляюць гэты кантроль і нагляд праз нарсудзьдзяў і начальнікаў папраўна-працоўных дамоў, пры якіх знаходзяцца загадчыкі прымусовых работ.

6. Загадчыкі прымусовых работ пры зносінах карыстаюцца штампамі і пячаткамі таго органу, пры якім яны знаходзяцца.

7. Выдаткі па ўтрыманьні загадчыкаў прымусовых работ, а таксама іншыя выдаткі, зьвязаныя з арганізацыяй прымусовых работ, робяцца за кошт паступленьняў ад гэтых работ, у адпаведнасьці з каштарысамі, якія зацьвярджаюцца Кіраўніцтвам Месц Зьняволеньня і прымусовых работ НКЮ.

8. Забясьпечаньне ўдзелу савецкай грамадзкасьці ў справе кантролю за правядзеньнем прымусовых работ ажыцьцяўляецца загадчыкам прымусовых работ праз устанаўленьне цеснай сувязі з адміністрацыйна-праўнымі сэкцыямі саветаў, пастаноўку дакладаў загадчыкаў, папулярызацыю закону аб прымусовых работах, уцягненьне грамадзкасьці ў разгляд спраў аб найлепшай арганізацыі работ, устанаўленьне аплаты працы, прадастаўленьне адтэрмінаваньняў, накладаньне пакараньняў і г. д.

Начальнік Кіраўніцтва Месц Зьняволеньня
і прымусовых работ НКЮ БССР **Думбра.**

Дадатак 4

№ . . . . . . . № . . . . . . .

БССР—НКЮ

**КІРАЎНІЦТВА М/З І ПРЫМУСОВЫХ РАБОТ НКЮ**

Прымусовыя работы пры . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# СПРАВА

На . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На тэрмін . . . . . . . . . . .
Пачата „ “ . . . . . . 193 г.
Скончана „ “ . . . . . . 193 г.

Ст. АТ.
Фт. $\frac{А\ 6}{420Х594}$

Загадчык Прымусовых работ

Форма № 1
Арт. 5

Дадатак 5.
1 старонка

## КАРТКА

На асуджанага да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю.

Назва органу, ведаючага прымусовымі работамі . .
1. Прозьвішча . . . . 2. Імя . . . . 3. Па бацьку . .
4. Год нараджэньня . . . 5. Сацыяльнае становішча . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Адрас . . . . . 7. Месца сталай работы . . . . .
8. Калі, кім і па якой справе асуджан . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
9. На які тэрмін . . . . . год . . . мес . . . дзён. .
10. Калі атрыман прысуд (пастанова) „ “ . . . 193 г.
11. Калі выканан прысуд (пастанова) „ “ . . . 193 г.
12. Калі дзе, колькі адбыта прымусовых работ;
1) У . . . . . . „ “ дзён, з . . . . . па . . .
2) У . . . . . . „ “ дзён, з . . . . . па . . .
3) У . . . . . . „ “ дзён, з . . . . . па . . .
4) У . . . . . . „ “ дзён, з . . . . . па . . .
5) У . . . . . . „ “ дзён, з . . . . . па . . .

Ст. АТ.
Фт. $\frac{А\ 5}{148Х210.}$

**2 старонка.**

Выкананьне прысуду

11. Прызначан на працу у . . . з „ “ . . . 193 г.
Перавездзен „ у . . . . з „ “ . . . 193 г.
„ „ у . . . . з „ “ . . . 193 г.

12. Перапынкі ў працы:
а) Па хваробе з . . . 193 г. па . . . . . 193 г.
паводле . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Па хваробе з . . . 193 г. па . . . . . . 193 г.
паводле . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
б) Прадастаўлен водпуск з . . 193 г. па . . 193 г.
г) ўхіліўся ад работы. . . . 193 г. па . . 193 г.
Прынятыя захады. . . . . . . . . . . . . . .

13. Меры ўзьдзейнічаньня і падставы . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

14. Вызвален: умоўна, датэрмінова, па аміністыі, па заліку дзён, па . . . . . з . . . . . . 193 г. паводле
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

15. Прымусовыя працы заменены . . . . . . . . .
з . . . . . . 193 г. паводле . . . . . . . . .

16. Розныя адзнакі . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс . . . . . . . .

**Дадатак 6**
Ф. № 2
арт. 8

У выпадку незнаходжаньня адрасата абавязкова зьвярнуць назад.

Куды . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каму . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

№ . . . . .

Загадчык прымусовых работ

пры . . . . . . . . .

Ст. АТ
Фт А 6 / 105Х148

**2-я старонка**

# ПОЗВА

Гр-ну . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Прапануецца Вам зьявіцца . . . . . . . . . 193 г. у .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
для рэгістрацыі і адбыцьця прымусовых работ па В/справе. У выпадку няяўкі Вы будзеце падлягаць прыводу мерамі міліцыі і на Вас будзе накладзена дысцыплінарнае пакараньне паводле арт. 227 ППК.

Пры яўцы абавязкова мець пры сабе пасьведчаньне асобы, а калі працуеце па найму—разьліковую кніжку альбо пасьведчаньне з месца службы.

Загадчык прымусовых работ

**Дадатак 7.**
Ф. № 3
Арт. 8

(Штамп)

У . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Працуючы ў Вас гр-н . . . . . . . . . . .
паводле $\frac{\text{прысуду}}{\text{пастановы}}$ . . . . . . . . . за . . . .
павінен адбыць прымусовыя работы па месцы службы тэрмінам на . . . . . . . . . . . . . . дзён
Пачатак адбываньня прымусовых работ лічыць з . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На падставе закону аб прымусовых работах уся зарплата прымусоўца за выключэньнем дзяржмінімуму ( . . . . руб. . . кап.) павінна ўтрымоўвацца і ўносіцца безадкладна пасьля выдачы зарплаты ў . . . . . . . . . . . . . . . . .
на бягучы рахунак № . . . . .

Ніякія адлічэньні з сум, падлягаючых утрыманьню, не дапушчаюцца.

Пасьля ўнясеньня грошаў трэба падрабязны разьлік паведамляць па форме на адвароце гэтага ў . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Звальняць прымусоўца па асабістаму жаданьню, пераводзіць на іншую лягчэйшую працу і прадастаўляць водпускі нельга. У выпадку звальненьня яго альбо пераводу на іншую працу ў адміністрацыйным парадку патрэбна безадкладна паведамляць у . . . . . .

Загадчык прымусовых работ

(Працяг формы № 3).

Ст. АТ
Фт. А 5
148Х210

Аб усіх прагулах і выпадках нядбайных і недабрасумленных адносін прымусоўца да работы паведамляць мне.

Аб прыцягненьні гр-на . . . . . . . . . . . да прымусовай працы канцылярыя ўстановы альбо прадпрыемства павінна зараз-жа паведамляць разьліковую частку і табельшчыка.

Загадчык Прымусовых работ

**2-я старонка**

ЗАГАДЧЫКУ ПРЫМУСОВЫХ РАБОТ

пры . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адбываючы ў нас, паводле Вашай адносіны за . . . . . . . . . . 193 г. № . . . . . прымус. работы гр-н . . . . . . . . . за час з . . . . . . . . . . . . . . . . па . . . . . . прапрацаваў . . . . . . . дзён, прапусьціў бяз уважлівых прычын . . . дзён, прапусьціў па хваробе, пасьведчанай бюлятэнем . . . . . . дзён.

За паказаны вышэй час ён зарабіў: аснаўнога акладу . . . руб., нагрузкі . . . . руб., зьдзельна . . . . руб., звышмерных . . . . руб. і іншых . . . . руб., а ўсяго . . . . руб.

З зробленай сумы выдана яму . . . руб. . . к. паводле . . . . . . . . . . . . . . . . , а астача ў суме . . . руб. . . кап. пераведзена ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гр-н . . . . . . . . . працаваў у якасьці (паказаць пасаду, альбо якую працу выконваў) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ацэнка працы і заўвагі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За папярэдні паўмесяц ён зарабіў . . . . . . .

Адміністрацыя

**Дадатак 8.**
Ф. № 7
Арт. 13

(Штамп).

АБВЕСТКА

Гр-ну . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Адрас . . . . . . . . . .вул., д. № . . кв. № . .
Прапануем Вам . . . . . . . . . . . . . .
к 8 гадзіне раніцы зьявіцца . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
для адбываньня прымусовых работ . . . . . . . . .

У далейшым Вы павінны зьяўляцца туды на работу без напамінкаў, рэгулярна—штодзень і без спазьненьняў.

За ўхіленьне ад працы, спазьненьне, прагулы, недобрасумленныя адносіны да працы Вы будзеце прыцягнуты да адказнасьці паводле арт. 227 ППК.

У выпадку хваробы Вы павінны зварачвацца ў . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Загадчык Прымусовых Работ

Ст. АТ.
Фт. А 6 / 105Х148

**Дадатак 9.**
Ф. № 8
Арт. 13
**1 старонка**

(Штамп)

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паведамляецца, што паводле . . . . . . . .
Вам накірован на работу гр-н . . . . . . . . . .
асуджаны да прымусовых работ для скарыстаньня на .
. . . . . . . . . .на тэрмін з . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .па . . . . . . . . . .
Парадак разьліку за работу . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аб усялякіх выпадках няяўкі на работу, несвоечасовай яўцы, дрэнных адносін да работы паведамляйце ў
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аб колькасьці фактычна прапрацаванага часу і якасьці працы паведаміце ў . . . . . . . . . . . . .
па форме на адвароце гэтага.

Загадчык Прымусовых Работ

Ст. АТ
Фт. А5 / 148Х210

**2-ястаронка**

Загадчыку Прымусовых Работ пры. . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адбываючы у нас паводле Вашай адносіны за . . . . . . . . . . . . . . . 193 г. № . . . . . . прымусов. работы гр-н. . . . . . . . . . . . за час з . . . . . . . . . . . . . . . па . . . . . . . . прапрацаваў . . . . . . . . . . дзён, прапусьціў без уважлівых прычын . . . . . . . дзён, прапусьціў па хваробе, пасьведчанай бюлятэнем . . . . . . . . . . дзён.

За вышэй паказаны час ён зарабіў: аснаўнога акладу . . . . . . . . руб., нагрузкі . . . . . . руб., зьдзельна . . . . . . руб., звышмерных . . . . руб. і іншых . . . . . . руб., а усяго . . . . . . . руб.

З заробленай сумы выдана яму . . . . . . . . руб. паводле . . . . . . . . . . . . . . . . . . . , а астача у суме . . . . . . . . . . . руб. пераведзена ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гр-н. . . . . . . . . . . . . . . .працаваў у якасьці (паказаць пасаду, альбо якую працу выконваў) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ацэнка працы і заўвагі. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За папярэдні паўмеяц ён зарабіў . . . . . . . . . .

Адміністрацыя

**Дадатак 10.**
Арт. 22.

(Штамп)

Начальніку . . . . . . . . . . Міліцыі

Прашу з атрыманьнем гэтага даставіць прыводам у Бюро прымусовых работ на . . . . . 193 г. у„ "гадзін, гр-на . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . пражываючага . па . . . . . . . . . вул., д. № . . . .кв. № . . ., які ўхіляецца ад прымусовых работ.

У выпадку выбыцьця просьба ўстанавіць шляхам апытаньня домакіраўніцтва, кроўных альбо суседзяў, куды выбыў, альбо мог выбыць паказаны грамадзянін.

Загадчык Прымусовых работ

Ст. АТ
Фт. $\frac{A6}{105X148}$

**Дадатак 11.**
**Форма № 9.**
Арт. 24.

(Штамп)

Начальніку . . . . . . . . . $\frac{\text{Міліцыі}}{\text{Крымвышуку}}$

Копія . . . . . . . . . . . . . суду. .

Прысуджаны паводле прысуду . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю тэрмінам на . . . . . . . па . . арт. КК гр-н . . . . . . . . . . . . . . які паходзіць з . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

і апошні час пражываў у. . . . . . . . . . . ад адбыцьця вызначанай меры сац. абароны ухіліўся.

Просьба ўжыць захады да вышуку яго. Пры ўстанаўленьні месца жыхарства паведаміць у бліжэйшы орган прымусовых работ і мне.

Падстава: Арт. 24 Інструкцыі.

Загадчык Прымусовых работ

Ст. АТ
Фг. $\frac{\text{А 6}}{\text{105Х148}}$

**Дадатак 12.**
**Форма № 10**
Арт. 32.

## ПАСТАНОВА

**аб накладаньні дысцыплінарнага пакараньня.**

Загадчык Прымусовых работ . . . . . . . . . . разглядзеўшы матарыял аб гр-не . . . . . . . . . , які адбывае прымусовыя работы паводле $\frac{\text{прысуду}}{\text{пастановы}}$ . . . . . . . . . . . . . . . . . і прымаючы пад увагу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ПАСТАНАВІЎ:

Накласьці на гр-на . . . . . . . дысцыплінарнае пакараньне ў выглядзе . . . . . . . . . . . . .

Загадчык Прымусовых работ

Зацьвярджаю: $\frac{\text{Нарсудзьдзя}}{\text{Нач. Папр.-Прац. Дому}}$

Ст. АТ
Фг. $\frac{\text{А6}}{\text{105Х148}}$

Абвешчана:. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дадатак 13.
Форма № 11
Арт. 37

# ПАСТАНОВА

**аб адтэрмінаваньні адбываньня прымусовых работ без трыманьня пад вартаю.**

Загадчык Прымусовых работ . . . . . . . . .
разглядзеўшы хадайніцтва гр-на . . . . . . . . . ,
асуджанага да прымусовых работ на тэрмін . . . . .
і ўлічваючы . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ПАСТАНАВІЎ:

Адтэрмінаваць гр-ну. . . . . . . . . . . . . .
адбываньне прымусовых работ без трыманьня пад вартаю тэрмінам на . . . . . . з „ „ . . . . 193 г. па „ “
. . . . . . . . . . 193 г.

Загадчык Прымусовых работ

пры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зацьвярджаю: Нарсудзьдзя / Нач. Папр.-Прац. Дому

Ст. АТ
Фт. $\frac{\text{А 6}}{\text{105Х148}}$

Дадатак 14.
Форма № 12
Арт. 38

(Штамп)

У . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паведамляецца, што гр-н . . . . . . . . .
які паводле $\frac{\text{прысуду}}{\text{пастановы}}$ . . . . . . . . . .
асуджан да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю тэрмінам на . . . . . . . . . . .
вызначаную $\frac{\text{меру сац. абароны}}{\text{адм. пакараньня}}$ адбыў „ “ . .
. . . . . . . . . . 193 г.

Загадчык Прымусовых работ

Ст. АТ
Фт. $\frac{\text{А 6}}{\text{105Х148}}$

Форма № 14
Арт. 46

Дадатак 15.

| ПРЫБЫТАК | | | | ВЫДАТАК | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год месяц і дзень | Ад каго, за што і на падставе чаго атрымана. | СУМА | | Год месяц і дзень | Каму, за што і на падставе чаго заплачана. | СУМА | |
| | | Р. | К. | | | Р. | К. |
| | | | | | | | |

Копія пастановы пасылаецца ва ўстанову па месцы работы прымусоўца.

Форма № 15
Арт. 49.

Дадатак 16.

## ПАСТАНОВА

### Аб вызначэньні аплаты працы асуджанаму да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю.

Загадчык Прымусовых работ . . . . . . . . . .
. . . . . . . . разглядзеўшы хадайніцтва гр-на . . . .
. . . . . . . . . асуджанага паводле прысуду/пастановы . . . .
. . . . . . . . . да прымусовых работ без трыманьня пад вартаю тэрмінам на . . . . . . . . . . . . . .
аб устанаўленьні аплаты працы ў разьмеры „ “фактычнага заробку і прымаючы пад увагу . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ПАСТАНАВІЎ

Прызначыць гр-ну . . . . . . . . . . . . .
аплату працы у разьмеры „ %“ фактычнага заработку.

Загадчык Прымусовых работ

Ст. АТ
Фт. А 5 / 148Х120

Зацьвярджаю: Нарсудзьдзя / Нач. Папр.-Прац. Дому

Адказны Радактар С. Лодысеў.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. 242. Тыр. 5.700 экз.

